ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXVII, № 241 New York, May — Травень 1977 Vol. XXVII, № 241

# ПРЭЗЫДЭНТ ДЖЫМІ КАРТЭР І БЕЛАРУСЫ

Уся Амэрыка, а зь ёю ўвесь сьвет, глядзіць сяньня зь нятоеным зьдзіўленьнем на гэтага новага чалавека ў Белым Доме. І ёсьць чаму дзівіцца, бо запраўды сп. Картэр заскочыў дасло̀ўна ўсіх ды не памалу! Заскочыў ён роўна рэспубліканцаў, як і сваіх дэмакратаў, ледзь-ледзь з гора-бяды перамогшы Форда, а потым у няпоўныя два месяцы стаўшы найбольш папулярным нававыбраным прэзыдэнтам ЗША, згодна перадавых дасьледнікаў публічнай апініі г. зв. Голаппол. Заскочыў ён і заходніх аліянтаў Амэрыкі, якія з адкрытым перапудам успрынялі яго цьвёрдую пазыцыю ў пачатнай стадыі канфрантацыі з Масквою ў пытаньні таптаньня ёю правоў чалавека. Сяньня ўжо страх адыйшоў і адзін за другім выразілі яны сп. Картэру сваё поўнае прызнаньне.

Але бадай найбольш кур'ёзным фактам ёсьць тое, што заскочыў ён няўпрыцям логава міжнародных дывэрсантаў у Крамлі, кінуўшы ім пад самыя дзьверы прывід не чаго іншага, як той-жа іхняй спэцыяльнасьці — дывэрсіі... Прытым цікава і важна адзначыць, што фактычна сп. Картэр ня меў адносна іх ніякага асабліва злоснага намеру, а што такі вынік стаў неабходным і нямінучым з самога ходу падзеяў ды з факту ўдзелу ў іх аднаго чалавека — Джымі Картэра, маральна-этычная пастава якога і была галоўным прычынным фактарам гэтых падзеяў.

Заскочыўшы ўсіх іншых, ня мог Прэзыдэнт Картэр не заскочыць нас, Беларусаў. Толькі з намі гэта справа вельмі простая, вылучна пазытыўная і вельмі радасная. Можна з пэўнасьцяй сказаць, што на скаванай ланцугамі няволі Бацькаўшчыне народ наш горача моліцца за здароўе Прэзыдэнта Джымі Картэра і за шчасьце для ўсіх яго пачынаньняў. З нашай тут эміграцыяй, бязумоўна, справа мае свае больш цікавыя бакі. Гледзячы на яе з далейшай пэрспэктывы, прыпомнім сабе, зь якой верай у сэрцы перасяляліся мы сюды з Эўропы ў пачатку 1950-ых гадоў, якой надзеяй і гарачым жаданьнем гарэлі мы, каб творча ўлучыцца ў вагульналюдзкую місію Амэрыкі, у якой — мы сьвята верылі — знойдзецца месьцечка і для Вольнай Беларусі. Прыпомнім сабе далей, як хутка рухнула гэна ідэалістычная ява ў ваблі́чны жорсткай рэчаіснасьці і цяжкога змаганьня за існаваньне, як усё-ж мы, ня гледзячы на ўсе перашкоды, няўтомна працавалі, каб пакласьці падваліны пад новыя формы беларускага жыцьця ў Новым Сьвеце, як настойліва шукалі мы праўды ў аўтарытэтных дзейнікаў, дзе нас цярпліва слухалі, ветліва паціскалі руку..., а калі мы вярталіся, нам падстаўлялі нагу. Над жыцьцём нашым павісла была цяжкая хмара гіпакрызіі і асноўнай амаральнасьці людзей, якіх мы дасюль ідэалізавалі: настала доўгая і цёмная ноч...

Так, нам Беларусам — непапраўным ідэалістым — давялося цяжка пацярпець у час вялікага крызысу амэрыканскага ідэалізму, які пачаўся ў 1950-ых гадох і дасягнуў свой кульмінацыйны пункт у факце капітуляцыі палітыкі „стрымоўваньня камунізму" ў паўдзённай Азіі ды ў няслаўных падзеях дома, што давялі да рэзыгнацыі спачатку віцэ-прэзыдэнта, а пасьля і самога прэзыдэнта краіны. Цяжка было ня думаць, што амэрыканскаму ідэалізму прыйшоў канец.

На гэтым няпрыветлым, амаль трагічным фоне выхад на гістарычную арэну такой асабістасьці як Дж. Картэр ёсьць падзеяй зусім незаканамернай, якой ніхто не прадбачыў, ані прадказаў. Відавочна ні ў час перадвыбарнай кампаніі, ані навет пасьля яе, нікому і ў галаву ня прышло, каб кінутае мімаходам асьведчаньне кандыдата Картэра, што ён ёсьць „a born again Christian" — дасло̀ўна „ізноў народжаны хрысьціянін", г. зн. той, хто душою і сэрцам успрыняў Хрыста, як свайго збаўцу, што расцэньваецца як эквівалент нованараджэньня — можа мець якое практычнае значаньне. А тымчасам...

Хоць фактычна нічога асаблівага і ня здарылася, апрача адно таго, што Джымі Картэр, стаўшы 39-ым прэзыдэнтам ЗША, заявіў сваім крыху нядбайным, зусім няпрэзыдэнцкім голасам і стылем, што ён будзе стала і заўсёды стаяць у вабароне правоў чалавека, дзе-б і кімбы яны ня былі пагвалчаныя! Паўшы з вуснаў прэзыдэнта найсільнейшай і найбольш прагрэсыўнай нацыі, гэты сказ зэлектрызаваў увесь сьвет. Перш за ўсё ён пранёсься маланкай і ўдарыў там, дзе яго найменш спадзяваліся, ды пасеяў страх у сэрцах тых, хто прывык страшыць іншых. Першы раз за 60 год чырвоная Масква запратэставала: тыя, што ўсімі спосабамі інфільтравалі, падрывалі, агітавалі і ўзбуралі людзей на ўсіх кантынэнтах і ўва ўсіх дзяржавах сьвету, змушаныя былі падняць голас пратэсту ў сваёй уласнай абароне(!), супраць умяшаньня ў іхныя „хатнія справы"... Ізноў — рэч нябывалая, якой ніхто не прадказаў, ані ніхто не прадбачыў, што яна можа калі здарыцца.

Як бачым, з усьведамленьнем таго, хто ёсьць новым прэзыдэнтам ЗША, у сьвеце наступілі пэўныя зьмены радыкальнага характару, можна сказаць, што стварылася зусім новая сусьветная каньюнктура. Зьмены гэтыя не эвалюцыйнага парадку — наступілі яны неспадзявана, без папярэджаньня, як бывае з адкрыцьцём нечага, пра што раней ніхто ня ведаў. А так бывае толькі ў справах Боскіх, у справах веры: была цёмная ноч і вось раптам стаў белы дзень...

Для нас Беларусаў гэтыя неабыдзённыя зьмены лёгка выяўныя, зразумелыя, хоць і падвойна неспадзяваныя, бо ў бальшыні памыліліся мы нятолькі адносна асобы сп. Картэра — як відаць, мала хто з нас за яго галасаваў — але больш за ўсё наконт таго адмерлага амэрыканскага ідэалізму: ён, аказваецца, далёка не замёр, а жыве і красуецца тайком у многіх сэрцах гэтай вялікай і шматграннай нацыі. Здаецца, яго адно часова былі вытравіўшы з Вашынгтону, куды ён сяньня вяртаецца ў ціхім трыумфе.

У сугучнасьці із сваяасаблівым стылем і амаль мэтафізычным зьместам гэтых недалёкіх у часе падзеяў, вялікае абнаўленьне пачынаецца і ў нашых зьняверанных сэрцах. Мала-памалу нам пачынае верыцца, што ўрэшце і Беларусам выбіла гадзіна праўды й справядлівасьці ў Вашынгтоне. Нам хочацца верыць, што запраўды прыйшоў канец на амаральныя дачыненьні да нас (прыклад: паколькі ў бальшыні Беларусы разумеюць парасейску, няма патрэбы на перадачы „Голасу Амэрыкі" ў беларускай мове. А парасейску разумеюць усе падсавецкія народы!). Мы спадзяёмся далей, што нашае цяжкое змаганьне супроць тыраніі Масквы на Беларусі, супроць нялюдзкага гвалчаньня ёю асноўных людзкіх правоў Беларусаў у іхнім палітычным, культурна-рэлігійным і сацыяльна-эканамічным жыцьці, здабудзе ўрэшце належнае прызнаньне і, калі ня рэальную дапамогу, дык прынамся шчырую спагаду і ўвагу, якая традыцыйна ўдзяляецца тут усім барацьбітом за волю народную з боку кіруючых адзінак, аўтарытэтных урадавых дзейнікаў і шырокай амэрыканскай грамадзкасьці. Мы зь цярплівасьцяй чакаем, калі ўрэшце зьнікне бязь сьледу дасюлешняя гіпакрызія, а амэрыканская грамадзкасьць захоча пазнаёміцца бліжэй із шляхотнымі ідэямі Беларускага Вызвольнага Руху ды ўрэшце актыўна падтрымае тых, хто вядзе непасільную барацьбу за праўду, за справядлівасьць і за свабоду для Беларускага Народу. З надзеяй глядзім мы ў будучыню, калі рэарыентацыя амэрыканскай публічнай апініі ў дачыненьні да нас зробіць урэшце магчымым стварэньне тут з амэрыканскай ініцыятывы арганізацыі, якая ўзяла-б на сябе заданьне актыўнай апекі над вывучэньнем і папулярызацыяй сярод Амэрыканцаў беларускай гісторыі й беларускай культуры — нешта накшталт Англа-Беларускага Таварыства ў Лёндане. Хоць напуста мінула цэлае чэцьверцьвечча, яго ўжо не вярнуць..., усё-ж ніколі ня позна пачаць выпраўляць мінулыя памылкі і ўзяцца станоўча за рабленьне дабра.

Вось што прадвяшчае нам новая эра ў Вашынгтоне, якой на імя — Джымі Картэр. Ужо кароткі гэты перагляд паказвае, што Беларусам-Амэрыканцам давядзецца пакінуць на нейкі час усе партыйна-груповыя меркаваньні й дружна падтрымаць новага прэзыдэнта Амэрыкі ўва ўсіх ягоных пачынаньнях. Яму належаць нашы малітвы, наша спагада і ўдзячнасьць.

**П. Вішенеўскі**



**Byelorussian Heritage Festival**

**Garden State Arts Center** Saturday, May 21, 1977

Беларускі фэстывальны Камітэт запрашае ўсіх Беларусаў ды іхных прыяцеляў і знаёмых іншых нацыянальнасьцяў ушанаваць сваёй прысутнасьцяй

## ДРУГІ БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ,

што адбудзецца ў сыботу 21 травеня сёлета ў

**GARDEN STATE ARTS CENTER**

Нью Джэрзі (там, дзе й летась).

Заплянаваная наступная праграма дня: выстаўкі — мастацкая, этнаграфічных вырабаў, фатаграфічная („З жыцьця Беларусаў Амэрыкі"); сувэнірныя стэнды ды кіёскі беларускіх арганізацыяў. Усё адчыніцца а 10-ай гадзіне ўраньні. Ураньні адбудзецца таксама ўрачыстасьць узьняцьця беларускага сьцягу. На працягу цэлага дня ў парку будзе гучэць беларуская музыка.

Адбудуцца два паказы беларускіх нацыянальных касьцюмаў, на якіх будуць прадстаўнікі друку. Будуць рабіцца здымкі для тэлябачаньня.

Некаторыя арганізацыі правядуць нарады або маёўкі.

З самага раньня пачнуцца таксама спартовыя змаганьні, што будуць трываць да пачатку канцэртнае часткі.

Асабліва багаты сёлета асартымэнт беларускіх сувэніраў: ювэлірныя вырабы, цыраміка, сурвэткі зь беларускім арнамэнтам, кубкі з напісам „На здароўе", шпількі, крыжыкі, вышыўкі.

На стэндах беларускіх выданьняў будзе шмат кніжак і пэрыёдыкі, а таксама кружэлак з музыкай.

У васобным кіёску, названым „Дзе вашыя карані?", на адмысловай карце Беларусі будуць адзначаныя мясьціны паходжаньня ўсіх удзельнікаў і гасьцей фэстывалю.

На працягу ўсяго фэстывалю будуць адчыненыя стэнды зь беларускімі стравамі, зрыхтаванымі парахвіянамі прыходаў сьв. Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку, сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Саўт Рывэры ды сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл.

Канцэртная праграма — багатая й новая — станецца незабыўным закончэньнем дня ў вялікім тэатры Цэнтру Мастацтваў.

Увечары адбудзецца ў Беларускім Цэнтры ў Саўт Рывэры вечарына, што зачыніць фэстывальны дзень 1977 году.

Каля трохсот дабраахвотнікаў, сяброў арганізацыйнага камітэту й удзельнікаў усіх праграмаў фэстывалю, прарабілі сваю работу ды чакаюць і спадзяюцца падтрыманьня з боку грамадзтва.

**В. Кіпель, старшыня Фэстывальнага к-ту**

## ВЕЧАРЫНА

**21-га травеня а 8-ай гадзіне пасьля Фэстывалю ў БЕЛАРУСКІМ ЦЭНТРЫ ў САЎТ РЫВЭРЫ**

Вечарыну арганізуе беларуская моладзь Фэстывальнага камітэту.

Білеты можна набываць у часе Фэстывалю ў маладзежным кіёску.

## НОВАЯ КРУЖЭЛКА

зь беларускімі песьнямі ў выкананьні маладога тэнара

## ДАНЧЫКА АНДРУСЫШЫНА

На кружэлцы — 14 беларускіх рамансаў і народных песьняў, выкананых пад гітару й запісаных у новай музычнай студыі **Алекса Мартыновіча.**

# "КРОКІ КАСТРЫЧНІКА" У 1934 ГОДЗЕ

У беларускім савецкім друку ў сувязі з 60-ымі ўгодкамі рэвалюцыі часта можна пабачыць рубрыку „Крокі Кастрычніка". „Крочыць" цяпер Кастрычнік па бачынках аднапартыйнага друку, у тым ліку й газэты „Голас Радзімы". Газэта „Голас Радзімы", як ведама, друкуецца ў закрытай друкарні ЦК КПБ ды шчодра рассылаецца за межы на адрысы беларускіх эмігрантаў, у тым ліку й „бебурнацаў".

У сёлетнім трынаццатым нумары „Голасу Радзімы" ад 31-га сакавіка, у рубрыцы „Крокі Кастрычніка", прыгадваецца гэткі адзін „крок" з 1934-га году: „16-22 студзеня 34-га году, — даведваецца чытач-эмігрант з „Голасу Радзімы", — праходзіў XV-ты зьезд кампартыі (бальшавікоў) Беларусі. 456 дэлегатаў прадстаўлялі 65.119 членаў і кандыдатаў у члены партыі. Зьезд абмеркаваў справаздачы ЦК, ЦКК, Рэвізійнай камісіі, даклады аб калгасным і саўгасным будаўніцтве ў БССР і іншае".

Нататка на гэтым і канчаецца. Падобныя маламоўныя нататкі друкуюцца й па іншых газэтах ды часапісах савецкае Беларусі. Чытачы гэных нататак, асабліва маладзейшыя, калі не пацікавяцца далей „крокамі" Кастрычніка ў 34-ым годзе, дык гэтак і застануцца з хвальшывым уражаньнем пра мэтады будаваньня савецкага сацыялізму.

Але нас з вамі цікавіць мінуўшчына гэткая, якой яна была. Мы трымаемся прынцыпу: тое, што піша пра мінуўшчыну партыйная гісторыяграфія цяпер, трэба зьвяраць з тым, што пісаў партыйны друк тады, калі гісторыя рабілася. Параўнаньні бываюць часамі вельмі павучальныя — павучальныя і пра сучасную гістарыяграфію, і пра колішнюю гісторыю. „Крокі Кастрычніка" 34-га году з „Голасу Радзімы" — клясычны прыклад, як партыйныя дакумэнтальныя крыніцы выкрываюць хвальшы **сучаснае** пісаніны партыйнага друку.

Паводля „Голасу Радзімы", на XV-ым зьезьдзе кампартыі Беларусі ў студзені 1934 году было прадстаўленых 65.119 сяброў і кандыдатаў у сябры кампартыі рэспублікі. А цяпер зазірнем у часапіс „Коммунист Белоруссии", нумар восьмы за 1968 год, у якім да 50-годзьдзя КПБ быў зьмешчаны матарыял „Кампартыя Беларусі ў лічках". На бачынцы 33-яй чытаем, што на 1-га студзеня 1934 году, гэта значыцца два тыдні да таго, як пачаўся XV-ты зьезд КБ(б)Б, у кампартыі Беларусі было ня 65.119 „членаў і кандыдатаў", а 37.909. Можа часапіс „Коммунист Белоруссии" памыліўся? Вазьмем тады газэту „Правда" ад 16-га студзеня 1934 году, якраз за той дзень, калі ў Менску пачаўся XV-ты зьезд кампартыі Беларусі. У „Правде" тады быў зьмешчаны артыкул Аньціпава. Тытул Аньціпава быў — „старшыня беларускае рэспубліканскае камісіі для чысткі партыі". Вось пра што паведамляў Аньціпаў:

„Чыстка закончаная поўнасьцяй ува ўсіх арганізацыях рэспублікі. Праверана, бяз частак Чырвонае Арміі й войскаў пагранаховы, сяброў і кандыдатаў партыі 53.192 чалавекі. Усяго выключана 6.002 сябры й 3.767 кандыдатаў. Пераведзена ў кандыдаты 4.266... У Беларусі пасьля чысткі засталося 39.811 сяброў і кандыдатаў партыі" (канец цытаты). 39.817! А газэта „Голас Радзімы" падае цяпер — 65.119. Дык хто зь іх, вы думаеце, хлусіць: „Правда" з 34-га году ці „Голас Радзімы" з 77-га? (Выдатная тэма Мацкевічу зь Бягуном на памфлет — „У павуціньні свае-ж статыстыкі".).

Старанна абыходзіць маўчаньнем сучасная савецкая гістарыяграфія ды прапаганда і ўсю атмасфэру 1934 году, калі Кастрычнік цяжкімі ботамі „крочыў" па Беларусі. Зьнікалі тады ня толькі партбілеты й партыйцы із статыстычных рэляцыяў, яшчэ больш зьнікала простага народу: сялянаў, работнікаў, інтэлігенцыі. У 1934 годзе Сталін быў ужо замацаваўшы поўнасьцяй уладу ў сваіх руках. Па рэспубліках Саюзу партыйны апарат быў абстаўлены падпарадкаванымі яму рупліўцамі. На Беларусі з 1932 году на становішчы першага ўсяўладнага сакратара партыйнае арганізацыі жорстка дзеіў Сталінаў пасланец Мікалай Гікала. У дзень адчыненьня XV-га зьезду кампартыі Беларусі, разам з артыкулам Аньціпава пра вынікі чысткі ў партыйных арганізацыях рэспублікі, „Правда" зьмясьціла артыкул Гікалы пад загалоўкам „КП(б)Б у змаганьні за генэральную лінію партыі". У артыкуле казалася:

„Яшчэ летась у пытаньнях ходу нарыхтовак у Беларусі і ў справе настаўніка Сьцяпуры... ЦК ВКП(б) прыняў канкрэтную пастанову, што выкрывала існасьць і характар памылак КП(б)Б у практычным правядзеньні ленінскае нацыянальнае палітыкі.

„ЦК ВКП(б) тады з усёй рашучасьцяй падкрэсьліў наяўнасьць у КП(б)Б гніла-лібэральнага стаўленьня да клясава варожых нацдэмаўскіх элемэнтаў, якія часта прыкрываліся партбілетам і праводзілі сваю антысавецкую работу пад хвальшывым нацыянальным сьцягам. У 1933 годзе, — пісаў далей першы сакратар кампартыі Беларусі, — у Наркамасьветы, Наркамземе, Акадэміі навук было выкрытае шкодніцтва й рэшткі нацдэмаўскіх уплываў...

„Не выпадкова пленум ЦК КП(б)Б, абмяркоўваючы пытаньні, зьвязаныя з правядзеньнем ленінскае нацыянальнае палітыкі партыі, прыйшоў да тых-жа высноваў, што й пленум ЦК КП(б) Украіны, а менавіта, што ў умовах Беларусі мясцовы беларускі нацыяналізм становіць у дадзены мамэнт галоўную небясьпеку ў галіне нацыянальнага пытаньня".

Да мамэнту адчыненьня 16 студзеня 1934 году XV-га зьезду кампартыі Беларусі шмат партыйцаў, а яшчэ больш непартыйцаў было

(Заканчэньне на 2-й бачыне)

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $10.00 yearly.

„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## "КРОКІ КАСТРЫЧНІКА" У 1934 ГОДЗЕ

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

ўжо ў турмах, або на этапах, або на тым сьвеце. Вось як апісаў гэтыя „крокі Кастрычніка" навочны сьветка іх, беларускі пісьменьнік Лявон Крывічанін (гл. „Беларус", 1954 г., № 8):

„10-га жніўня 1933 году, паводля наказу з Масквы, былі арыштаваныя ў справе Беларускага Нацыянальнага Цэнтру былыя дэпутаты беларускага народу ў польскі сойм ды іншыя грамадаўцы, якіх Масква ў 1932 годзе вымяняла з польскае турмы за агентаў польскага выведу... 1-га верасьня пачаліся масавыя арышты. За ноч на 2-га верасьня ў Менску было арыштавана 98 асобаў. Падобная акцыя была праведзеная ўва ўсіх акруговых і раённых гарадох і па вёсках Беларусі... Арышты трывалі праз увесь верасень і кастрычнік 1933 году. Да 1-га лістапада ў справе БНЦ было арыштавана 9.700 чалавек. З гэтае колькасьці больш за 500 чалавек інтэлігенцыі...

„Да 1-га студзеня 1934 году справа БНЦ была скончаная.

„Усе арыштаваныя, за выняткам колькі асобаў, ,прызналі сваю віну'. 15-га студзеня калегія ГПУ вынесла прысуд (бяз суду). Дваццаць асобаў былі засуджаныя на сьмерць із заменаю дзесяцьма гадамі зьняволеньня, рэшта — да зьняволеньня ў канцэнтрацыйных лягерах на тэрміны ад трох да дзесяцёх гадоў. Першага лютага 1934 году пачаўся вываз... Да сярэдзіны сакавіка блізу ўсе 9.700 чалавек, прыцягненых па справе БНЦ, былі раськіданыя па паўночных прасторах ,адзінай і недзялімай' ".

Вось якімі „крокамі" хадзіў па Беларусі Кастрычнік у трыццатых і далейшых гадох. Адзначаючы сёлета ягонае 60-годзьдзе, пра гэтыя факты трэба ведаць, пра іх трэба памятаць: НІХТО НЕ ЗАБЫТЫ, НІЧОГА НЕ ЗАБЫТА!

**А. Будзіч**

## МАСКВА МАБІЛІЗУЕ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

Сёлета ўлетку ў Белградзе мае адбыцца канфэрэнцыя прадстаўнікоў дзяржаваў, што два гады таму падпісалі дэклярацыю „дэтанту" ў Гэльсынках, ды эвэнтуальна разважыць пытаньне будучыні дэтанту.

Заходнія дзяржавы вялікую вагу прыкладалі да пытаньня абароны правоў чалавека й спадзяваліся, што канфэрэнцыя ў Гэльсынках змусіць таталітарныя камуністычныя рэжымы Ўсходняй Эўропы даць людзям волю ўва ўсіх асноўных дзялянках людзкага жыцьця, што ў Заходняй Эўропе й Амэрыцы ёсьць зьявай нармальнай і ўсім даступнай так, як паветра.

Але камуністычныя рэжымы, на чале з маскоўскім, ня толькі не далі людзям ніякіх палёгкаў у сфэры свабоднай вымены думак, творчасьці, доступу інфармацыяў з-за межаў, свабоды падарожжаў у сваім краі й за ягоныя межы, свабоды рэлігіі, сходаў, прапаганды. Наадварот, ціск гэных рэжымаў у некаторых галінах жыцьця яшчэ больш узмоцніўся.

Гэта прывяло да розных пратэстаў і контракцыяў у розных краёх, дзе пануюць камуністыя. Даволі назваць найбольш ведамы сьпіс дамаганьняў інтэлектуалістых Чэхаславаччыны, што падпісала 77 чалавек.

Рэпрэсіі ў дачыненьні да многіх дысыдэнтаў — з аднаго боку, і падтрыманьне прэзыдэнтам Картэрам акадэміка Сахарава й савецкіх дысыдэнтаў — з боку другога, паставіла Крэмль і падпарадкаваныя яму ўрады ў вабаронныя пазыцыі. Мабілізацыя сілаў, каб супрацьдзеіць Захаду, адбываецца ўжо даўно. Важным вязьмом у гэтай маскоўскай акцыі ёсьць мабілізацыя сваіх і прыхільных ці маласьведамых паэтаў і пісьменьнікаў сьвету.

Ад 7-га да 14-га чырвеня сёлета ў Сафіі й Варне адбудзецца г. зв. „міжнародная сустрэча". Тэмаю сустрэчы мае быць „Пісьменьнік і мір: дух Гэльсынкі й абавязак майстроў культуры". Гаспадаром сустрэчы будзе Саюз баўгарскіх пісьменьнікаў. Газэта „Літаратура і Мастацтва" за 25 сакавіка сёлета зьмясьціла „Адозву да пісьменьнікаў Эўропы, ЗША й Канады, да пісьменьнікаў усяго сьвету".

У вадозьве гэнай маскоўскі рэжым, — што распальвае войны ў Афрыцы, выдае вялізарную часьць народнага багацьця на збраеньні, вядзе бязупынную вайну клясавае ненавісьці дома й за межамі, вязьніць і вынішчае перадавых іншадумцаў у канцэнтрацыйных лягерах і псыхушках, — рэжым гэты выступае як абаронца міру й заклікае ўсіх пісьменьнікаў сьвету прыйсьці яму на помач. Гэты рэжым, схаваўшыся за плечы баўгарскіх пісьменьнікаў, быццам заклапочаны „аб міры, якому пагражаюць нябывалы рост узбраеньняў, ачагі вайны", ён рупіцца пра „чалавечае жыцьцё, творчасьць людзей, будучае дзяцей". І ён хоча „абмеркаваць ідэю аб удзеле пісьменьнікаў у вадстойваньні міру й гуманізму, у захаваньні й памнажэньні культурных каштоўнасьцяў".

Адозву падпісала 63 літаратараў, найбольш зь іх Баўгараў, а таксама із Савецкага Саюзу. Із Задзіночаных Штатаў фігуруюць наступныя: Джон Апдайк, Гор Відал, Эрскін Калдуэл, Дэніс Левертаў і Джан Чывер. Ад СССР ёсьць наступныя подпісы: Чынгіз Айтматаў, Андрэй Вазьнясенскі, Аўген Яўтушэнка, Георгі Маркаў, Барыс Палявой, К. Сіманаў, М. Федарэнка, М. Шолахаў. Характэрна, што бальшыня зь ліку літаратараў СССР — гэта або літаратурныя нулі, як Барыс Палявой, або партыйныя апаратчыкі ў літаратуры, як Сіманаў, Маркаў ці Шолахаў. Між подпісамі няма ніводнага зь беларускіх савецкіх пісьменьнікаў або паэтаў, навет такіх, як Ніл Гілевіч, што ўжо дзясяткамі гадоў перакладае творы баўгарскай літаратуры ў беларускую мову ды замацоўвае з найлепшымі намерамі „творчыя сувязі" з Баўгарамі, гаспадарамі сёлетняй чырвенскай сустрэчы.

Характэрна таксама, што, зь некаторымі выняткамі, на сьпіску подпісаў пад адозваю адсутнічаюць першарадныя таленты творчага літаратурнага сьвету. З Канады ёсьць тры прозьвішчы: Джан Калёмбо, ведамы паэта і зусім мала ведамыя тут Іў Тэрыя й Мірыям Уодзінгтон.

Я скантактаваўся з даўно знаёмым мне канадыйскім паэтам Джанам Калёмбо. Ён сказаў мне, што адозвы яшчэ ня чытаў, але некалі даў згоду прыняць удзел у канфэрэнцыі ў Сафіі й Варне. Ён уважае сябе апалітычным, падарожжа ў Баўгарыю бярэ як „галідэй" (вакацыі). Мае між баўгарскімі пісьменьнікамі й паэтамі шмат сяброў, даўгі час зь імі супрацоўнічае й вось цяпер, у часе нашай гутаркі госьціць у сябе ў Тароньце аднаго прыязнага Баўгарына, таксама апалітычнага, прозьвішча якога, аднак, не назваў. Джан Калёмбо зьдзівіўся, што адозва зь ягоным подпісам, між іншых, зьявілася ўжо... аж у Менску, ды прасіў прыслаць ейную копію.

На маё пытаньне, ці ён і ягоныя сябры Канадыйцы маюць намер на гэнай канфэрэнцыі паставіць на парадку дня пытаньне рэпрэсіяў над літаратарамі й народазабойства ў Савецкім Саюзе й краёх г. зв. „народнае дэмакратыі", а таксама пасьлядоўнае й плянавае гвалчаньне камуністымі Гэльсынкскай умовы, Калёмбо адказаў, што „ня выпадае гнявіць гаспадароў", што ён дакладна разумее палітыку, якая праводзіцца пры помачы гэтае канфэрэнцыі, але, маўляў, „іхная бальшыня, яны плянавалі, дык, калі-б мы й хацелі што-небудзь наўсуперак зрабіць, дык ці ўдасца".

З гэтых выказваньняў ясна, чаму Калёмбо запрошаны ў Баўгарыю. Ніякай партыйнай вады ён там не замуціць, прагаласуе „за мір" і „творчае супрацоўніцтва". Да яго дадай вось яшчэ цэлую сям'ю гэткіх палітычна бясхрыбетных літаратараў з Захаду, — а тамжа ведалі, каго запрашалі, — вось і атрымаецца прадыктаваны Масквой голас для падтрыманьня „гуманізму, міру й творчасьці".

А тымчасам запраўдныя абаронцы правоў народаў да волі, свабоднай творчасьці й міру будуць і далей гібець у бальшавіцкіх псыхушках, канцлягерах або мардавацца ў савецкіх ці „народнадэмакратычных" вязьніцах.

**К. Акула**

## БЕЛАРУСЫ Ў НЯМЕЦКІХ ЛЯГЕРАХ СЬМЕРЦІ

Другая сусьветная вайна спрычынілася да жахлівых спусташэньняў па ўсёй Беларусі. Безьліч вёсак спаленых акупантамі, нярэдка разам з жыхарамі, масавыя расстрэлы ў турмах і спэцыяльных лягерах, зь якіх найбольшымі былі Трасьцянец, Калдычэва ды пры вуліцы Шырокай у Менску, урэшце транспарты зь перапоўненых на Беларусі турмаў у нямецкія канцэнтрацыйныя лягеры. Колькі ўзапраўды было гэтых транспартаў, ды куды, у якія лягеры — справа дагэтуль не дасьледжаная, таксама дакладна ня ведама колькі, прыблізна, тысячаў Беларусаў было ў гэтых лягерах. На маю думку, было добрых некалькі дзясяткаў тысячаў.

Найбольшыя транспарты з тэрыторыі Беларусі йшлі ў Асьвенцім (Аўшвіц) ці дакладней у Біркэнаў (Бжэзінка) — галоўны філіял Асьвенціму. Згодна Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, зь лістапада 1942 году да травеня 1944 году з Горадні, Віцебску й Менску было адпраўлена Немцамі ў Асьвенцім адзінаццаць эшалонаў — прыблізна 5.700 чалавек. Мне асабіста ведама, што былі таксама транспарты з Полацку ды, апрача гэтага, у Біркэнаў у 1943 годзе было зьліквідавана 12 тытсячаў савецкіх ваеннапалонных, сярод якіх былі, напэўна, і Беларусы.

Асьвенцім, асабліва-ж Біркэнаў, гэта быў узапраўды лягер сьмерці. Харчаваньне было такое, што нармальна людзі паміралі на працягу 4-х месяцаў прабываньня, калі ня было падтрымкі звонку (харчовых пасылак). Бальшыня вязьняў зь беларускіх транспартаў не магла гэтых пасылак спадзявацца, бо высылаць такіх зь Генэральнага Камісарыяту Беларусі было забаронена, таму й сьмяротнасьць сярод Беларусаў ужо ў першых тыднях прабываньня ў лягеры была вялікая. Трэба ўзяць пад увагу, што вязьні былі месяцамі ў акруговых ці раённых турмах, некалькі тыдняў на зборных пунктах, таму й адпорнасьць гэтых людзей на ўмовы жыцьця ў Біркэнаў была вельмі нізкая. Найбольш „папулярнымі" хваробамі, якія спрычыняліся да сьмерці, былі дэзынтэрыя, апухліна рук і ног і караста. Хворыя паміралі або ў бараках, або ў шпіталі, дзе, звычайна ,зь імі ня цырымоніліся доўга, даючы ўколы Фэноля. Праца, пераважна, ня была цяжкая, але дачыненьні лягернай адміністрацыі, асабліва тэй часткі, што складалася зь вязьняў, былі вельмі дрэнныя — біцьцё вязьняў было на парадку дня. Цяжкія рэпрэсіі тарнаваліся да тых вязьняў, якія былі калісь паліцыянтамі або належалі да адміністрацыі акупацыйных уладаў. У маім транспарце, апрача мяне, было амаль 20 былых паліцыянтаў зь Пяршаяў і Вішнева Валожынскага павету. Гэта былі маладыя хлапцы, сьведамыя Беларусы й адзінай іхняй „віной" было тое, што яны былі каталікамі. Яны былі арыштаваныя разам з польскімі каталіцкімі ксяндзамі-Палякамі падчас тэрарыстычнай акцыі агентаў Вялейскага гэстапо (прозьвішчы іхныя Рэдакцыі ведамыя — Рэд.), якія на чале гэстапаўцаў-Латышоў выбраліся на змаганьне з партызанамі. Было аднак бесьпячней „змагацца" з цывільным жыхарствам, паліць хаты, грабіць, забіваць нявінных людзей і прывезьці ў Вялейку некалькі дзясяткаў арыштаваных, чымся змагацца з узброенымі партызанамі. Прывезеныя ксяндзы былі хутка ў Вялейцы расстрэленыя, а былыя паліцыянты апыніліся ў Біркэнаў.

Зь вялейскай турмы ў нашым транспарце было некалькі Палякаў — удзельнікаў польскай падпольнай арганізацыі ў Вялейцы. Яны й паінфармавалі вязьняў-Палякаў зь іншых баракаў, што сярод нашага транспарту ёсьць былыя паліцыянты-Беларусы. Даведаўшыся аб гэтым, я навязаў лучнасьць зь Міхалам Карвэцкім, які паходзіў із Смургоншчыны, але перад арыштам працаваў, як настаўнік, каля Варшавы. Гэта быў вельмі адукаваны чалавек і займаў важнае становішча ў польскім падпольлі. Сярод вязьняў-Палякаў меў вялікі аўтарытэт. Хоць лічыў сябе Палякам, душа ягоная засталася беларускай. Ён абяцаў нам дастаць лепшую працу, параіў ня прызнавацца, што мы былі ў паліцыі, ды прасіў нас старацца як найхутчэй дастацца на транспарт у іншыя філіялы (а іх было шмат) пры Асьвенціме. Хутка пасьля гэтага частка б. паліцыянтаў выехала ў Мановіцы, Ополе, Глівіцы. Мне асабіста з чатырма б. паліцыянтамі ўдалося папасьці на транспарт у Бухэнвальд. Праўда, мы, б. паліцыянты ня мала былі бітымі вязьнямі-Палякамі, але мы ўсе вырваліся жывымі зь Біркэнаў (апошнім выехаў я).

Іншая была справа зь кіраўніком Беларускай Самааховы Глыбоцкай акругі. Прозьвішча ягонага я сяньня ня пэўны, але, здаецца, што капітан Арлоў, б. ахвіцэр царскай арміі. Пасьля Першай сусьветнай вайны ён жыў у Глыбоччыне, гутарыў прыгожай беларускай мовай, заўсёды далёка трымаўся ад Палякаў. Адзін Беларус (прозьвішча ягонае ведамае Рэдакцыі — Рэд.) абвінаваціў яго ў глыбоцкім гэстапо ў прапольскіх сымпатыях. Я запрыязьніўся з Арловам у Біркэнаў, мы гутарылі зь ім часта на беларускія тэмы. Я ня мог прызнацца, што ягонага „дабрадзея", які яго абвінаваціў у прапольскіх сымпатыях, у 1941 годзе ў Маладэчыне даслоўна выратаваў ад сьмерці, рызыкуючы собскай галавой. Арлову, як „беларускаму ваеннаму камэнданту", ня мала таксама дасталося ад Палякаў. Калі мяне вывозілі ў Бухэнвальд, ён ужо ляжаў у шпіталі. Адтуль быў толькі адзін выхад — крэматорыя.

Зь іншых больш ведамых беларускіх вязьняў былі ў Біркэнаў былыя вучні Віленскай беларускай гімназіі Левановіч і Павал Мілюк. Першы паходзіў з Крэва, папаўся ў лягер дзякуючы жонцы-Расейцы, якая мела сувязь з партызанамі, другі, П. Мілюк, спад Баранавіч быў арыштаваны за прыналежнасьць да „Антыфашыстаўскага Саюзу". Ён знаў добра У. Кліма, навет сябраваў зь ім. Мілюк і Левановіч ужо былі кандыдатамі ў шпіталь, а адтуль у крэматорыю — абодвы мелі ўжо апухнутыя рукі й ногі, але яшчэ трымаліся ня дрэнна.

У Біркэнаў была прывезена разам з намі пляменьніца Юстына Мурашкі, Галіна Мурашка зь Вішнева Жодзінскага павету. Яна пазьней была загадчыцай блёку ў жаноцкім лягеры Біркэнаў. Яна фізычна трымалася добра і, як было чуваць, добра адносілася да Беларусак. Аб ейным лёсе пасьля вайны мне нічога ня ведама.

У іншых шматлікіх нямецкіх канцэнтрацыйных лягерах была не малая колькасьць Беларусаў. Лягер Штуттгоф (Усходняя Прусія) меў пасьля Біркэнаў бадай найбольшую колькасьць Беларусаў, пераважна сялян зь Беласточчыны й Горадзеншчыны.. Транспарты із Штуттгофу йшлі ў Бухэнвальд, Маўтгаўзэн, Гросс-Розэн, Гамбург-Нойчаммэ й інш. Эвакуацыя Штуттгофу пад канец вайны закончылася вельмі трагічна — два нямецкія параплавы перапоўненыя вязьнямі былі альянцкімі самалётамі збамбардаваныя й затапіліся. Зь вязьняў ніхто ня выратаваўся. Марскія хвалі доўгія месяцы пасьля заканчэньня вайны выкідвалі недалёка гораду Нойштадт трупы вязьняў.

Нейкая колькасьць Беларусаў была ў Дахаў, у шматлікіх філіялах Маўтгаўзэну (Мэндлінк, Вінэр-Нойштадт і інш.), у Флёссэнбургу, Араніенбург-Захсэнгаўзэн, Равэнсбрук і іншых. Як правіла, Беларусы насілі на верхняй вопратцы адпаведнага колеру трыкутнік „П" (польская дзяржаўная прыналежнасьць). Навет і тыя Беларусы, што перад вайной былі савецкімі грамадзянамі. У Дахаў было зьліквідавана 7.000 савецкіх ваеннапалонных, сярод якіх была, праўдападобна, значная колькасьць Беларусаў. Пад канец вайны некалькі дзясяткаў вайсковых з 30-ай беларускай дывізыі СС былі прывезеныя ў канцэнтрацыйны лягер Дахаў і там хутка зьліквідаваныя. Сярод іх быў капітан В. Мікула.

Аграмадная бальшыня беларускіх вызьняў — гэта сяляне, былі аднак там прадстаўнікі ўсіх іншых прафэсыяў. Варта тут успомніць сьвятароў нашых большых веравызнаньняў, як кс.кс. Ст. Глякоўскага й Д. Мальца, якія ў Бухэнвальдзе працавалі ў амуніцыйнай хвабрыцы Густлёў-вэркэ, ды загінулі там падчас бамбардаваньня хвабрыкі альянцкімі самалётамі ў жнівені 1944 году, праваслаўнага сьвятара Барыса Камінскага, ведамага на віленскім груньце а. ерадыякана Сяргея Вашчанку зь віленскага Сьв.-Духаўскага манастыра, кс. д-ра Міхала Маскаліка, вязьня Захсэнгаўзэну, мастака сьв. пам. Аляксандра Стагановіча (малодшага), вязьня Дахаў ды іншых.

Асьвенцім і ягоныя філіялы былі вызваленыя савецкай арміяй у канцы студзеня 1945 году. Колькі беларускіх вязьняў пабачыла волю? Ня ведама. Ведама толькі, што яны яшчэ мусілі быць „перавыхаваныя" праз нейкі час у лягерах Сібіру. Лягеры ў Заходняй Нямеччыне й Аўстрыі былі вызваленыя ў красавіку 1945 году. Толькі малая колькасьць б. вязьняў-Беларусаў апынілася на Захадзе. Заразжа пасьля вайны паўстала Ліга б. палітычных вязьняў-Беларусаў, але яна не магла праявіць большай дзейнасьці з прычыны вельмі малой колькасьці сяброў. Былыя вязьні, ня толькі Беларусы, але й наагул, падазрона ставіліся да ўсякіх арганізацыяў. Гэткая зьява была й сярод іншых нацыянальнасьцяў.

Далейшыя этапы — гэта лягеры ДП, скрынінгі, эміграцыя. Нейкая колькасьць знайшлася навет у Аўстраліі, але ў грамадзкай працы ўдзелу амаль ніхто ня прыймае.

У 1949 годзе Нямецкая Фэдэральная Рэспубліка забавязалася выплаціць адшкадаваньне б. палітычным вязьням канцэнтрацыйных лягераў. Справа цягнулася гадамі. Толькі малой частцы б. вязьняў на Захадзе ўдалося атрымаць невялікае адшкадаваньне, затое атрымалі вельмі шчодра Жыды. Урэшце ўмяшаўся Высокі Камісар для Ўцекачоў пры Задзіночаных Нацыях і змусіў нямецкі фэдэральны ўрад яшчэ раз перагледзець гэтую справу. Нямецкая Фэдэральная Рэспубліка забавязалася выплаціць б. вязьням, якія знаходзяцца на Захадзе, адшкадаваньне ў форме аднаразовай сумы, а ў выпадку ўтраты 25% і больш здароўя, выплачваць месячную пэньсію. На першы пагляд пастанова Высокага Камісара й адпаведныя нямецкія законы былі вельмі спагадлівыя й лібэральныя, на практыцы, аднак, пэтэнтам даводзілася перажыць яшчэ раз страшэнны кашмар. Розныя фармуляры, лекарскія й аптэчныя пасьветчаньні ад 1953 году — усё гэта трэба было перакласьці на нямецкую мову ды зацьвердзіць судом або натарыюсам, што забірала шмат часу й грошай. Працэдура цягнулася гадамі, а б. вязьні тымчасам паміралі. Заканчэньнем усяго для тых, што яшчэ жылі, былі лекарскія агледзіны лекарамі-спэцыялістымі, аплачванымі нямецкімі кансулятамі. Агледзіны трывалі гадзінамі й былі спалучаныя з дакладным палітычным апытаньнем пэтэнта, на манер нямецкага гэстапа.

З 36.000 заяваў, зложаных у нямецкую фэдэральную ўстанову, пазытыўны адказ атрымала 5.000 асобаў, зь іх толькі 3.300 атрымала месячную пэнсыю, пераважна 300 нямецкіх марак, астатнія аднаразовае адшкадаваньне ў суме каля 8.000 нямецкіх марак. Некалькі дзесяткаў Беларусаў у Аўстраліі таксама атрымалі нямецкае адшкадаваньне або пэнсыю.

### PRO DOMO MEA

У сакавіку 1976 году я атрымаў ліст зь нямецкага кансуляту з запытаньнем, ці я, як былы вязень канцэнтрацыйнага лягеру Нордгаўзэн-Дора, філіял Роттлебэродэ, згадзіўся-б даць паказаньні аб умовах жыцьця й працы ў Роттлебэродэ, дзе

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

## УГОДКІ 25 САКАВІКА Ў АДЭЛЯЙДЗЕ



Айцец Георг служыць Малебен на 25 Сакавіка ў Адэляйдзе

Угодкі абвешчаньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі сёлета адзначалі Беларусы Адэляйды ў нядзелю 3 красавіка. Сьвяткаваньне пачалося Божай Службай у парахвіяльнай царкве, якую адправіў настаяцель а. Георг. Падчас Малебену за Беларускі народ стаяла ганаровая варта із сьцягамі, а на заканчэньне наш беларускі хор пад кіраўніцтвам рэгента Міхася Бурноса прапяяў Беларускаму народу ,,Многае лета'', а таксама беларускі рэлігійны гімн ,,Магутны Божа''. Пасьля гэтага а. Георг уручыў узнагароды Яго Высокапраасьвяшчэнства Мітрапаліта Андрэя тым парахвінам, што ахвярна працуюць на ніве БАПЦарквы.

пад таленавітым кіраўніцтвам сп. Міхася Бурноса й пры акампаньяманьце акардыяністага Міколы Кандрусіка выканаў сем беларускіх песьняў, кажная зь якіх выклікала сярод слухачоў гучную буру воплескаў. Наймалодшы наш дэкляматар адзінаццацёхгадовы Паўлік Калясьнікові прадэклямаваў два вершы Якуба Коласа ,,Будзь цьвёрды'' й ,,Родныя вобразы'', а Віктар Зеляneўскі ўрывак з Коласавай паэмы ,,Новая Зямля'' й гумарыстычнае апавяданьне Францішка Багушэвіча ,,Дзядзіна''. Наш найстарэйшы дэкляматар інж. Парфір Трысмакоў расказаў два гумарыстычныя апавяданьні.

У міжчасе Вера Бічанін пры дапамозе Моці Шэцько зарганізавала лятарэю, увесь даход зь якое прызначаны на аплату падарожжа ў Сыднэй для ўдзелу ў 2-ой Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі, што адбудзецца ў канцы сьнежня сёлета. Інж. П. Трысмакоў правёў грашовую зборку на выдавецкія патрэбы Рады БНР.



Адэляйдзкі хор выконвае бел. нац. гімн

Тады ўсе прысутныя перайшлі ў прыцаркоўную залю, дзе адбыўся ўрачысты сход спалучаны із супольным сьвяточным абедам. Сход адчыніў старшыня Парахвіяльнай Рады К. Станкевіч, а хор прапяяў беларускі нацыянальны гімн ,,Мы выйдзем шчыльнымі радамі''. На тэму дня былі прачытаныя рэфэраты ў беларускай і ангельскай мове, а таксама прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў у вольным сьвеце.

У мастацкай праграме сходу адна з найвыдатнейшых нашых дэкляматарак сп-ня Вольга Бурнос прадэклямавала верш Міхася Машары ,,25 Сакавіка'', а згаданы хор

Парахвіяльная Рада ў Адэляйдзе гэтай дарогай складае шчырую падзяку ўсім, хто прыняў удзел у арганізацыі й правядзеньні сьвяткаваньня, усім удзельнікам мастацкае праграмы, а таксама жанчынам за зрыхтаваньне супольнага абеду.

**Яр**

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25 САКАВІКА У СЫДНЭІ

Беларусы Сыднэю ў гэтым годзе спалучылі разам два найвялікшыя нашыя сьвяты — хрысьціянскае Ўваскрашэньне Хрыста й нацыянальнае — адраджэньне дзяржаўнасьці Беларусі Актам 25 Сакавіка й абвешчаньне вольнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Сьвяткаваньні адбыліся ІІ красавіка ў залі Беларускага Грамадзкага Клюбу.

Сабраных суродзічаў віталі старшыня Клюбу Л. Дзядуля й кіраўнік сьвяткаваньня М. Лужынскі. Галоўным прамоўцам на сьвяткаваньні быў Я. Макарэвіч, а д-р Я. Малецкі ў кароткіх словах прадставіў сяньняшнія ўзаемадачыненьні між ЗША і Савецкім Саюзам.

З нагоды нашага нацыянальнага сьвята беларускія арганізацыі Сыднэю атрымалі прывітальныя лісты й тэлеграмы ад: Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі (Аўстралія), Беларускай Цэнтральнай Рады, Беларуска-Амэрыканскага Аб'яднаньня ў Нью Ёрку, Беларускага Вызвольнага Фронту, Сусьветнае Антыкамуністычнае Лігі Азіі, Галоўнага Сакратарыяту Сусьветных Антыкамуністычных Арганізацыяў, Сусьветнае Лігі Моладзі, што былі прачытаныя кіраўніком сьвяткаваньня М. Лужынскім і сп. А. Алехнікам.

Ад імя Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі прысутных прывітаў ейны старшыня М. Зуй. Хвілінай цішыні суродзічы ўшанавалі нашых гэрояў, што аддалі жыцьцё, каб жыла Бацькаўшчына.

У мастацкай праграме сьвяткаваньня сп. Я. Макарэвіч сказаў верш, напісаны ім-жа на сьвяткаваньне, сп-ня А. Каранеўская прадэклямавала верш Н. Арсеньневай ,,Ускрэсьні'', вершы Я. Купалы ,,Забраны край'' і ,,Хрыстос Уваскрос'' сказалі сп. А. Булаўскі й Алесь Зуй. Сьвяткаваньне закончылася агульным прапяяньнем нашага нацыянальнага гімну ,,Мы выйдзем шчыльнымі радамі''.

Тады распачалася традыцыйная бяседа й заля загаманіла. Знаёмыя й прыяцелі дзяліліся вялікодным яйком ды частаваліся смачнымі патравамі, бо нашыя гаспадыні іх старанна падрыхтавалі. За гэта асаблівая падзяка належыцца сп-ням О. Тумашэўскай, Н. Лужынскай, О. Ткач і А. Калпяка ды сп-ням Зуй.

Карыстаючыся з нагоды, старшыня Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў падзяліўся з прысутнымі сваймі ўражаньнямі із зьезду Беларусаў у Мэльбурне. Прысутныя падтрымалі прапанову Фэдэральнай Рады склікаць наступны зьезд-сустрэчу ў Сыднэі. І так у наступным годзе сыднэйскія Беларусы будуць гасьціць у сябе суродзічаў цэлае Аўстраліі й, трэба надзеецца, што й гасьцей зь іншых частак сьвету.

**А. К.**

# ВОБРАЗ Г. ЗВ. НАЦДЭМА Й ПРАБЛЕМА НАЦДЭМАЎШЧЫНЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Праблема гэтак званага беларускага нацыянальнага дэмакратызму ў беларускай літаратуры, спыненая няспрыяльнымі палітычнымі абставінамі колькі год таму, вынырнула ўзноў у леташнім рамане Івана Чыгрынава ,,Апраўданьне крыві''. Каб пытаньне гэтае дакладней насьвятліць і належна асэнсаваць у рамане Івана Чыгрынава дый іншых беларускіх пісьменьнікаў, мэтазгодна дый нат неабходна вярнуцца да пачаткаў зьяўленьня ў беларускай літаратуры тэмы й праблемы беларускага нацыянальнага руху ў БССР 20-ых — 30-ых гадоў, ведамага пад назовам гэтак званага нацыянальнага дэмакратызму або ,,нацдэмаўшчыны'', як яго зьняважліва ахрысьціла партыя.

Як ведама, напрыканцы 50-ых — пачатку 60-ых гадоў у выніку асуджэньня сталіншчыны былі рэгабілітаваныя беларускія пісьменьнікі, зьвінавачаныя й высланыя раней, як носьбіты гэтага руху, а тыя зь іх, што засталіся жывымі, вярнуліся з высылкі й аднавілі сваю літаратурную творчасьць. Цалкам натуральна й прыродна, што рэгабілітаваныя пісьменьнікі, гэткія, як Уладзімер Дубоўка, Мікола Хведаровіч, Сяргей Грахоўскі, Алесь Звонак, Янка Скрыган, Станіслаў Шушкевіч і іншыя, адлюстроўвалі ў сваіх творах свае перажываньні ў гадох высылкі, але ўсёй праўды сказаць не маглі. Гэтак у парэгабілітацыйным цыклі вершаў Уладзімера Дубоўкі ,,Чакае ля берагу човен мяне'' й іншых творах гады высылкі асэнсоўваліся вельмі-ж ідылічна й аптымістычна, паэта знаходзіў поўнае задаваленьне ў свaёй прымусовай фізычнай працы. Сяргей Грахоўскі бадайшто ў кажным сваім вершы канца 50-ых гадоў услаўляў Леніна й гэтак званую ленінскую праўду, у якую моцна быццам верыў у гадох сваёй няволі, а спрычыненую яму сталіншчынай крыўду асэнсоўваў як зло, што быццам ня мела ніякае прычыновае сувязі з партыяй і савецкай сыстэмай. Падобна й усе іншыя рэгабілітаваныя пісьменьнікі асэнсоўвалі гады свайго зьняволеньня штучна й няшчыра.

А рэгабілітаваны паэта Алесь Звонак нагэтулькі быў згубіўшы ўсякае пачуцьцё рэальнасьці, што, услаўляючы пазьнейшую рэчаіснасьць, не шкадаваў для яе даўгіх сваіх год, адпакутваных у савецкай высылцы ды страчаных для літаратурнай творчасьці, што ў сваім вянку санэтаў ,,Праўдзе веку'' ў 1971 годзе пісаў:

**Было за гэта варта ў сьцюжах**
**мерзьці,**
**Кайлом на скалах ставіць**
**безьліч мет.**

Паэта як быццам забыўся, што гэныя пакуты ня толькі ягоныя, а й цэлых міліёнаў савецкіх людзей, змушаных у сталінскіх часох ,,у сьцюжах мерзьці'', ані ня былі патрэбныя для гіпэрбалізаванай ім ,,праўды веку'', а якраз былі спрычыненыя тагачаснай ,,праўдай веку''. У падобным ідылічным тоне закранаў зьявы сталінскага тэрору малады беларускі паэта Ніл Гілевіч, што быў тады яшчэ дзіцем. Ніл Гілевіч у сваіх вершах пачатку 60-ых гадоў ,,Я ня знаю, дзе вашы магілы'' й ,,Сустрэчы ў снах'' ды ў паэме ,,Сто вузлоў памяці'', а таксама старэйшы паэта Аркадзь Куляшоў, якога абмінула сталінская высылка, у сваіх вершах цыклю ,,Маналог'', прысьвечаных арыштаваным сваім школьным сябром паэтам Зьмітраку Астапенку й Юлю Таўбіну, а таксама ў аўтабіяграфічнай паэме ,,Далёка да акіяна'', не маглі таксама сказаць усёй праўды пра гэныя пагромныя гады.

Першым спрабаваў шырака й праўдзіва ўва ўсёй трагічнай вымове насьветліць зьяву гэтак званага беларускага нацыянальнага дэмакратызму Іван Мележ у другім рамане з цыклю ,,Палескае хронікі'' — ,,Подых навальніцы'', што зьявіўся ў 1965 годзе. У пэрсанажы паэты Алеся Маёвага, якім шчыра апекаваўся чалавек ленінскага тыпу Апейка, пісьменьнік паказаў у праўдзівым сьвятле зьяву гэтак званага беларускага нацыянальнага дэмакратызму. Але адразу-ж і апёкся на гэтай сваёй спробе, бо ў гэным 1965 годзе пачаўся ўжо новы палітычны курс, калі пытаньне сталінскіх пагромаў сталася ўжо непажаданым. І хоць сюжэтнае адгалінаваньне гісторыі Алеся Маёвага ў рамане ,,Подых навальніцы'' ня было яшчэ завершанае, да яго пісьменьнік ужо не вярнуўся ў сваім трэйцім рамане палескага цыклю 1976 году ,,Завеі, Сьнежань''. Праўда, раман гэты з прычыны сьмерці ягонага аўтара застаўся незакончаным, але, трэба думаць, пісьменьнік ужо ня змог-бы вярнуцца да гэтае тэмы і ў тым выпадку, калі-б раман быў і закончаны.

Не зважаючы на палітычную сытуацыю апошняга часу, закрануць гэтую тэму ўсё-ж удалося Івану Чыгрынаву ў згаданым леташнім ягоным рамане ,,Апраўданьне крыві''. У гэтым рамане выступае родны сын Дзяніса Зазыбы, аднаго з галоўных пэрсанажаў твору, Масей, былы настаўнік і паэта, што ў яжоўшчыну быў арыштаваны, як вораг народу, і засуджаны ня судом, а завочна калегіяй НКВД, як агульна тады практыкавалася, на аснове хвальшывага й нікім не правяранага даносу. Інфармуючы шырэй пра долю Масея, аўтар рэтраспэктыўна згадвае пра шмат якія жахі тэрору ў часох яжоўшчыны. Гэта ўдалося аўтару прапхнуць у сваім рамане, відаць, толькі таму, што, будучы вымушаны абставінамі, насьветліў гэтую зьяву тэндэнцыйна ў карысным для партыі сьвятле. Гэтак Дзяніс Зазыба, зварочваючыся да Масея, кажа:

**,,Але павер мне, свайму бацьку, што савецкая ўлада ў тваёй бядзе ня вінаватая. Ты-ж сам кажаш, ком з гары каціўся. Было, адмаўляць нельга. Але-ж... ня ўсюды аднолькава: У нас, напрыклад, дык ніводнага й пальцам не кранулі. Дый ня толькі ў нас. Значыць, самапраўства на мясцох тварылася. А зь верху за ім недаглядзілі''.**

Гэтак вельмі важная падзея ў навейшай гісторыі беларускага народу — гэтак званы нацыянальны дэмакратызм з цэнзурных прычынаў не магла быць поўнасьцяй паказаная й праўдзіва асэнсаваная ў беларускай савецкай літаратуры. Таму важна й цікава пабачыць, якое-ж мастацкае ўцелаўленьне знайшла гэная тэма ў творах беларускае літаратуры ў заходнім сьвеце. І ўзапраўды, тэма гэтая сталася аднэй з галоўных у творах гэткіх беларускіх пісьменьнікаў Захаду, як Аляксандра Саковіч у ваповесьці ,,Браты'', Мікола Целеш у шмат якіх ягоных апавяданьнях, у вапавяданьнях Янкі Юхневіча, Уладзімера Дудзіцкага, Кастуся Раманоўскага й Алеся Змагара.

Ведамы беларускі паэта ў замежжы Масей Сяднёў, асабліва выдатны й плённы ў васноўным сваім жанры, паэзіі, таксама спрабаваў сваіх сілаў, і то з добрым вынікам, і ў жанры мастацкае прозы. У нью-ёркаўскім беларускім часапісе ,,Конадні'' быў надрукаваны пачатак, а ў мюнхэнскай газэце ,,Бацькаўшчына'' працяг шырака задуманага раману Масея Сяднёва ,,Раман Корзюк'' вылучна пра гэтак званы нацыянал-дэмакратычны рух 30-ых гадоў на Беларусі й нішчэньне яго органамі НКВД. Хоць друкаваньне гэтага раману незакончанае яшчэ, але, мяркуючы паводля надрукаваных разьдзелаў, гэта твор шыракамаштабны, з уніклівым аналізам тэорыі й практыкі НКВД у змаганьні з гэтак званым беларускім нацыянальным дэмакратызмам у Савецкай Беларусі. Сам Масей Сяднёў таксама ахвяра сталінскага тэрору. У 1936 годзе быў ён арыштаваны й засуджаны на 6 год за беларускі буржуазны нацыяналізм. Ён добра разумеў і ў сваім рамане пераконліва паказаў, што партыя ў дачыненьні да гэтак званага беларускага нацыянальнага дэмакратызму пасьлядоўна праводзіла палітыку, што служыла на карысьць цэласьці й непадзельнасьці савецкае імпэрыі. Словамі свайго пэрсанажу Цімошкі, галоўнага тэарэтыка й стратэга па нацдэмаўшчыне ў НКВД Беларусі, пісьменьнік вельмі ўнікліва насьветліў правакацыйныя ходы НКВД ў дачыненьні да гэтак званае нацдэмаўшчыны. На нарадзе ў начальніка НКВД Беларусі Цімошка сакрэтна інфармуе:

**,,Сувязь нацдэмаў з польскай разьведкай наладзіла само нашае НКВД: яно знайшло найболып незадаволеных савецкай уладай людзей і, справакаваўшы іх, перакінула ў Польшчу. Мала таго, намі было даканана колькі палітычных забойстваў чаловых савецкіх работнікаў з адзінай мэтай абвінавачаньня ў гэтых забойствах нацдэмаў або кулакоў, зьвязаных зь імі. Гэтых ,,забойцаў'' мы самі-ж і ратавалі — па дагаворанасьці з нашымі пагранзаставамі зноў-жа перакідалі ў Польшчу. Там, у польскай дэфэнзыве, яны часта траплялі ў рукі нашых-жа работнікаў, якія выпраўлялі іх назад, у Беларусь, дзе мы іх і лавілі ўжо як запраўдных нацдэмаў і шпіёнаў, высланых Польшчай. Так прыблізна была забясьпечаная сувязь беларускіх контррэвалюцыйных нацдэмаў з Польшчай і фашысцкай Нямеччынай''.**

У рамане ,,Раман Корзюк'' шмат іншых, гэткіх-жа вынаходлівых і пікантных дэталяў, хай сабе й фікцыйных, як у творах мастацкай літаратуры, але тым ня менш праўдападобных і тыповых, якіх ужывала НКВД у змаганьні зь беларускім нацыянальным рухам, у дадзеным выпадку — з гэтак званым нацыянальна-дэмакратычным рухам.

З гэтае нашага артыкулу сама сабой напрошваецца гэткая высноваа: Толькі беларускія пісьменьнікі замежжа, карыстаючыся поўнай свабодай творчасьці, маюць шырокія магчымасьці праўдзіва адлюстроўваць у сваіх творах гэтак званы нацдэмаўскі рух, асабліва тыя зь іх, што, як Масей Сяднёў, самі-ж былі ахвярамі жорсткага нішчэньня гэтага руху. Дык застаецца й пажадаць ім, узноў-жа асабліва Масею Сяднёву добрых посьпехаў у гэтым кірунку.

**Ст. Станкевіч**

## ДЗЕНЬ 25 САКАВІКА У ЛЁНДАНЕ

Сьвяткаваньне 59-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адбылося ў Лёндане ў нядзелю 27 сакавіка ў Беларускім грамадзкім цэнтры на Фінчлей. Урачысты сход, прысьвечаны гэтай нагодзе, адчыніў старшыня Галоўнай Управы Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі Я. Міхалюк.

На сходзе быў прысутны Дастойны Ўладыка Часлаў Сіповіч, Раднік Гарадзкой Управы Франк Гібсон, бальшыня лёнданскіх Беларусаў ды прадстаўнікі ад шмат якіх нацыянальных арганізацыяў. Прынагодны рэфэрат у ангельскай мове прачытаў сакратар Галоўнай Управы ЗБВБ. У ім ён насьветліў ход гістарычных падзеяў, давёўшы да абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году, выясьніў зьмест і значаньне трох Устаноўчых Граматаў Рады БНР. Ён таксама прааналізаваў далейшае змаганьне беларускага народу за здабыцьцё незалежнага быту, а таксама закрануў і сучаснае палажэньне ў Беларусі.

Пасьля афіцыйнае часьці адбылося супольнае прыняцьцё для ўсіх прысутных. Сяброўскія гутаркі, абмен думак з прадстаўнікамі іншанацыянальных арганізацыяў жыва гучэлі да позняе ночы. Пра сьвяткаваньне быў зьмешчаны артыкул у мясцовай ангельскай прэсе.

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**„Песьняры" маюць ізноў наведаць Амэрыку,** паводля менскае газэты „Чырвоная зьмена" (12. IV. 77), у якой чытаем: „У хуткім часе 'Песьняры' і кампазытар Ігар Лучанок вынясуць на суд глядача музычную кампазыцыю на вершы Янкі Купалы. Мы зь нецярплівасьцю чакаем гэтай сустрэчы. А нагерадзе ў калектыву таксама новыя паездкі, новыя гастролі, у тым ліку зноў у ЗША".

Трэба спадзявацца, што гэтым разам „Песьняроў" не пагоняць па глухіх сьцежках паўдзённа-ўсходніх штатаў, як гэта зрабілі ў сьнежні летась, а дадуць магчымасьць выступіць у Нью Ёрку, Кліўлендзе, Чыкага ды іншых гарадох, дзе Беларусы й Амэрыканцы беларускага паходжаньня здолеюць пачуць свае родныя песьні ў выкананьні таленавітых беларускіх „Песьняроў".

**Адварды Цыганкоў, дырэктар Дзяржаўнае Бібліятэкі БССР,** у парадку міжнароднага абмену, наведаў у красавіку-травені сёлета буйнейшыя блібліятэкі ЗША, цікавячыся зборамі беларускае кнігі ды пытаньнямі набыцьця беларускіх і беларусаведных выданьняў на Захадзе.

**Біяграфія пра праф. Барыса Кіту,** як пра аднаго з выдатных матэматыкаў і экспэртаў ракетнае тэхнікі ды аўтара шмат якіх навуковых працаў, зьмешчаная ў заходнянямецкім навуковым часапісе „Астронаўтык" (сшыток I — 1976 г., б. 24).

**Др. Вітаўт Кіпель і сп-ня З. Кіпель** узялі ўдзел у ўрачыстасьці адчыненьня Адукацыйнага Цэнтру Арамейскае Культуры ў ЗША ў гор. Гозбрук Гайтс, Нью Джэрзі, ад імя Кангрэсу Этнічных Арганізацыяў штату Нью Джэрзі ды Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

**Артыкул пра паштовыя маркі Горадні 1915-1918 гадоў** зьмешчаны ў англамоўным лятувіскім часапісе „Літуэніэн Дэйз" (Лятувіскія Дні), што выходзіць у гор. Галівудзе ў штаце Каліфорнія. У сёлетнім сакавіковым нумары гэтага часапісу, у другой частцы артыкулу „Лятува ў філятэліі" апісваюцца дзьве паштовыя маркі (паданыя ілюстрацыі), што выйшлі ў Горадні ў часе нямецкае акупацыі. Гісторыя Горадні пададзеная ў тыповым лятувіска-шавіністычным насьвятленьні.

# ПЛАЧ ПА НЯМІЗЕ

Менская газэта „Літаратура і Мастацтва" за 8 красавіка сёлета зьмясьціла вялікі артыкул паэты Максіма Лужаніна „Берагі залатыя Нямігі."

У бэсэсэраўскай прэсе ціраз зьяўляліся артыкулы выдатнейшых беларускіх патрыётаў — пісьменьнікаў і паэтаў, што выступалі супраць бяздушнага руйнаваньня бальшавіцкімі акупантамі розных беларускіх каштоўнасьцяў, як нацыянальных сьвятыняў, гэтак і розных сьвецкіх помнікаў ды прыродных аб'ектаў. Не зважаючы на іхныя пратэсты, працэс руйнаваньня-разбураньня няспынна працягваецца.

Ці трэба гаварыць Беларусам пра Нямігу? Ля яе ў раньнюю пару нашай гісторыі цякла кроў нашых продкаў. Бітва над Нямігай у 1067 годзе згадваецца ў „Слове аб Палку Ігаравым". Няміга ўжылася ў беларускую гісторыю. А дбайны гаспадар рупіцца пра захаваньне помнікаў мінуўшчыны, каб нашчадкі вучыліся на ейных памылках або натхняліся ўзвышанымі ейнымі дзеямі...

Максім Лужанін пачынае ад згадак пра Нямігу-вуліцу, дзе бяздушны антынародны бальшавіцкі молах зрабіў.., кажучы ягонымі словамі, „шырокі праспэкт. Там раскошна хадзіць машынам, ёсьць просты выхад на суседнія магістралі, а паабапал з дапамогаю толу й разнастайнай руйнавальнай тэхнікі вызвалена й гуляе колькі хочаш месца".

Вуліцы было звыш 700 гадоў, бегла яна некалі побач рэчкі.... „Хочаш, ня хочаш, а сьхілі галаву перад часам", — раіць Лужанін.

А што-ж з рэчкай? Жывая яна? „Апошні раз — апавядае Лужанін — я бачыў раку ня так даўно, праяжджаючы па вуліцы Горкага, былой Александраўскай. За мостам, перад Кацярынінскай царквой, была ўзарвана частка вуліцы. У разрытай яміне, на глыбіні двух-трох мэтраў стаяла амаль бяз руху чорная пляма бруднай жыжкі, не вады — хутчэй смалы. Гэта і была Няміга. Я спыніўся і стаяў, зьняўшы шапку, — нічога ня зробіш, апошняя сустрэча! З самай старажытнай, ня толькі беларускай, але агульнаславянскай ракою. Гэта ўжо ўсё, праводзіны".

І далей, разам з аўтарам, згадваем тую жывую яшчэ ў 20-ых і 30-ых гадох рэчку, што асабліва вясною, спад вёскі Пятроўшчына прабіралася да Сьвіслачы. Пры добрым плянаваньні, дбаючы пра зелень ля вытокаў, разумна заапякаваўшыся ёю ў горадзе, рэчку можна было захаваць. Дый пару іншых рэчак, прытокаў Сьвіслачы. Гэтак зрабіў-бы руплівы гаспадар. А якжа плянавалі ваколіцу Нямігі акупанты? А вось як:

„Быў зроблены выгляд, нібыта рака даўно ня існуе й няма ніякай рацыі пакідаць на паверхні яе перасохлыя шлункі, лепш за ўсё дастойна засыпаць пакойніцу пяском і заліць для надзейнасьці асфальтам, каб ня вылузалася выпадкам спад дачаснай надтруньніцы..."

І далей аўтар зноў вяртаецца ў мінулае, каб сьцьвердзіць, што падстаў для такой варварскай акцыі ня было. Ён сустракае інжынера каналізатара, які рысуе перад ім жвавую, захаваную пад плястычным пакрыцьцём (там, дзе нельга пакінуць яе адкрытай) рэчку Нямігу. Інжынер, відаць, немалы лятуценьнік, разважае, што берагі Нямігі могуць стаць... залатымі.

У немалым згадваным артыкуле Лужанін закранае й долю тых мізэрных рэштак іншае менскае старасьвеччыны, што яшчэ ня трапіла пад „руйнавальную тэхніку". І заканчвае артыкул паклонам у ведамы бок: „наша краіна дужэйшая за іншыя ў сьвеце... мае сілу знайсьці й знаходзіць разумныя рашэньні, каб падымаючы й разьвіваючы новае, не пакідаць у цяню і ў крыўдзе скарбы мінулых пакаленьняў".

Во, во! Здорава! Каб гэтак было, дык не хадзіў-бы ты на праводзіны Нямігі. Больш таго: разумееш, што варвары пачалі нанава гісторыю ад няслаўнага „кастрычніка" й ім напляваць на Нямігу вуліцу ці раку, улучна з 12-ым стагодзьдзем, ці тэй слаўнай бітвай над Нямігай у 1067 годзе...

„У нашай сіле адгукаюцца ўсе сілы дабра, што калі-небудзь нараджаліся на белым сьвеце" — канчае Максім Лужанін.

Ня зусім ясна, пра якія „сілы" гэтта аўтар гаворыць. Ці гэта звычайная, агорклая ў прапаганьдзе савецкай барабаншчына?

Калі ўжо згадваць нейкія „сілы", дык хіба трэба насамперш гаварыць пра маскоўскі гвалт (насилие) й беларускую немач. Бо й сам Лужанін, разважаючы із затоенай злосьцяй пра сьмерць ведамай гістарычнай рэчкі, бясьсільнымі дрыжачымі рукамі прыплятае ў тую далёкую мінуўшчыну, калі нешта быццам там і варушылася ад Суздаля, „старэйшага брата" ў сяньняшнім разуменьні. Бо, вось, бачыце, Няміга гэта „рака агульнай нашай вялікай крыві і нязгаснай памяці, і таму найвялікшы скарб трох магутных нацый".

Няма дзіва, што гэтта Лужанін робіць вымаганы рэвэранс у бок „старэйшага брата", якому ў гэны далёкі час яшчэ ня сьнілася пра ніякую „магутнасьць". Але ня менш паказальнае й наступнае: „Берагі ракі крывавіліся ня раз і ня двойчы, сярод прамінуўшых стагодзьдзяў, глядзі, ці знойдзеш такое, калі-б ня зьвінела ў горадзе зброя ягоных абаронцаў і заваёўнікаў — ад князёў кіеўскіх, полацкіх, літоўскіх і татарскіх цемнікаў да каралёў Польшчы, польных гэтманаў і маршалаў Напалеона".

Ня выпадкова ў сям'ю гэтае вялікае грамады напасьнікаў Лужанін ня ўлучыў самых галоўных — Маскалёў. Няхай-бы толькі спрабаваў! Нас, у прыватнасьці, у Лужанінавым артыкуле ня менш цікавіць недасказанае, чым сказанае. І паўстае пытаньне: калі пачынаецца духовая няволя? Ці ад тэй хвіліны, калі чалавек, на шкоду сваёй людзкой годнасьці, пачынае прамоўчваць самае галоўнае, ці ад пустых барабанных паклонаў у бок ворага?

Але гэта ўжо іншая тэма.

**К. Акула**

# ВЯЛІКДЗЕНЬ У БЕЛАРУСАЎ МАНЧЭСТАРУ

Сьвяткаваньне праваслаўнага Вялікадня ў Манчэстары, Ангельшчына, прайшло сёлета надзвычайна. Апрача мясцовых Беларусаў, у сьвяткаваньні прынялі ўдзел многія пазамясцовыя вернікі з Брадфарду, Бірмінгаму й Дэрбы, а таксама вялікая колькасьць моладзі. Да ўдалага сьвяткаваньня спрычынілася й тое, што праваслаўны Вялікдзень сёлета выпаў разам з каталіцкім.

У чацьвер 7 красавіка вечарам а. Пратаярэй Янка Абабурка ў мясцовай царкве Жыровіцкае Божае Маці адправіў Ютраню й прачытаў Евангельле 12-ці Страсьцяў Гасподніх.

У пятніцу 8 сакавіка папаўдні ён-жа адслужыў Вячэрню й дакանаў вынас Плашчаніцы.

У сыботу 9 красавіка позным вечарам а. Прат. Янка Абабурка з а. Янкам Пякарскім адслужылі Сьветлую Заутраню й Сьв. Літургію. Пасьля прывітаньня вернікаў і духавенства з Хрыстовым Уваскрасеньнем а. Янка Пякарскі прачытаў прачулае рэлігійна-патрыятычнае Вялікоднае Архіпастырскае Пасланьне Сабору Япіскапаў БАПЦарквы, прысланае Першагерархам Мітрапалітам Андрэем.

Адразу пасьля гэтага ў царкоўнай залі а. Янка Абабурка пасьвяціў пасху. Там-жа адбылося й традыцыйнае разгаўленьне. Падмацаваўшыся й выпіўшы па некалькі кілішкаў віна, прысутныя праводзілі час у мілай сяброўскай атмасфэры. Некаторыя сьпявалі, а некаторыя прыгадвалі сьвяткаваньні на Бацькаўшчыне, знайшліся аматары, што „біліся ў біткі".

Час зьліжаўся да канца, частка вернікаў разьяжджалася дамоў, а тыя, што засталіся ў Манчэстары, прынялі ўдзел у панядзелак у Божай Службе, якую адправіў а. Прат. Янка Абабурка. (

**М. Стаўпіскі**

# ПІМЕН ПАНЧАНКА Й АЙСЭДОРА ДУНКАН

Загаловак мой адразу выкліча зьдзіваваньне, а, можа, і зьбянтэжаньне. І праўда: што супольнага паміж народным паэтам Беларусі Піменам Панчанкам ды славутай сваім часам амэрыканскай танцаўніцай-басаножкай, як яе звалі ў Расеі ў дваццатых гадох? Супольнае паміж імі, можа, толькі тое, што Панчанка — паэта, а Айсэдора была замужам за паэтам, за Сяргеем Ясенінам.

Тым ня менш, пабываўшы надовечы ў ньюёркаўскім „Юрыс"-тэатры на Брадвэі, дзе выступаў знаны па цэлым сьвеце бэльгійскі так званы „Балет дваццатага стагодзьдзя" пад кіраўніцтвам Марыса Бэжара ды пабачыўшы, між іншага, ягоны аднаактавы балет „Айсэдора" ў выкананьні савецкай прыма-балерыны Маі Плісецкай, я міжволі ўспомніў цікавы, вельмі цікавы верш Пімена Панчанкі, зьмешчаны ў сёлетнім студзенскім нумары часапісу „Полымя".

Вось ён, гэты невялічкі, без загалоўку, але зь вялікім сэнсам твор:

Ноч канае ў цёмным завугольлі,
Слуп барвовы сонца устае.
І бягуць насустрач за вагонам
Сосны беларускія мае.

У купэ, дзе шмат людзей бывала,
Дзіўны сон мне сьніўся ў гэту ноч:
Нібы ў доме ўсё маім прапала,
Толькі стол пусты
і нейкі нож.

Я з нажом даўно ўжо ня дурэю,
На руцэ ад ручкі мазалі...
Што за знак той дом пусты?
Старэю...
А зрабіў так мала на зямлі.

Мне цяпер часьцей маленства
сьніцца,
То лясы Бягомля,
то стагі...
Не паеду болей за граніцу:
Сэрца разарвецца ад тугі.

Ня ведаю, як у вас, дарагія чытачы, а ў мяне ад гэтага вершу мурашкі бягуць па сьпіне.

Але зноў-такі: што супольнага паміж гэтым добрым, вельмі добрым вершам Панчанкі й балетам Марыса Бэжара „Айсэдора" на музыку Ліста, Шапэна, Бэтховэна, Скрабіна? Да вершу Панчанкі я вярнуся. Але спачатку раскажу, чаму на балеце „Айсэдора", і ня так на самым спэктаклі, як пасьля яго, мне ўспомніўся верш Панчанкі. Партыю Айсэдоры Дункан у балеце Бэжара танцавала, як я ўжо казаў, Мая Плісецкая. Ня кажучы ўжо пра тое, што ймя Плісецкае мае па цэлым сьвеце вялікую магічную сілу, самы факт, што савецкая балерына танцуе з замежным тэатрам за межамі Савецкага Саюзу — выклікаў вялікае зьдзіваваньне ў Амэрыцы. Так, вельмі ўплывовы балетны крытык Клайв Барнс адзначыў у газэце „Нью Ёрк Таймс", што толькі задоўга да Другое сусьветнае вайны, у дваццатых і самым пачатку трыццатых гадоў савецкім балетным артыстым урад дазваляў выступаць за межамі СССР у замежных тэатрах. Апошняя перад Плісецкай балерына, якая мела гэты дазвол, была сваім часам Марына Сямёнава. І ўспомніўшы гэта, крытык „Нью Ёрк Таймсу" адзначыў, што выступленьне Плісецкае з балетам Бэжара мае ня толькі артыстычнае, але й палітычнае значаньне. Пагатоў, што Мая Плісецкая, прыехаўшы ў Нью Ёрк, дала цікавае, я-б нат сказаў сьмелае інтэрвію Аньне Кісэльгоф, супрацоўніцы таго-ж „Нью Ёрк Таймсу". Плісецкая з горычай сказала, што яна заўсёды была ў маскоўскім Вялікім тэатры, гэтак кажучы, бяльмом на воку ў дырэктароў і балетмайстроў, якія ад першых ейных крокаў у тэатры стараліся высунуць на першы плян сваіх жонак і сяброўак. І што цяпер, не зважаючы на ўсе ейныя ляўрэацтвы, зь ёй робяць у Вялікім тэатры тое самае, што рабілі некалі, інакш кажучы, не даюць актыўна працаваць. Таму, адзначыла Плісецкая, яна зь вялікай ахвотай прыняла запросіны аднаго зь лепшых сусьветных балетмайстраў Марыса Бэжара паехаць зь ім на гастролі ў Нью Ёрк і танцаваць у двух ягоных новых балетах „Айсэдора" й „Балеро".

Зразумела, Мая Плісецкая ня ўсё сказала, ня ўсё магла сказаць у „Нью Ёрк Таймсе" — ёй трэба вярнуцца ў Маскву. Але калі я пабачыў, як вялізарная заля Юрыс-тэатру — ня менш за пяць тысячаў асобаў — устаўшы, стоячы ды не шкадуючы рук, пляскалі Маі Плісецкай, дваццаць часінаў выклікалі яе ды засыпалі кветкамі, я зразумеў тое, аб чым Плісецкая прамоўчала, што Мая Плісецкая мае аднолькава вялікую радасьць, танцуючы перад удзячнымі глядачамі Масквы й Нью Ёрку, Менску й Лёндану. Што ніякая ўлада, ніякая партыя ня маюць ні маральнага, ні законнага права забараняць сваім артыстым выступаць за межамі свае краіны, куды-б іх ні паклікалі. Што сьвет і мастацтва непадзельныя, а тыя, што дзеляць яго мурамі, падобна да Бэрлінскага муру, гэта ворагі, як сьвету, так і мастацтва.

Мая Плісецкая зь вялікай ахвотай прыняла запросіны Бэжара паехаць за межы — заграніцу й выступіць зь ім у Нью Ёрку ды ў іншых гарадох. А Пімен Панчанка ў вершы сваім — тут я і ўспомніў яго — чорным на белым піша:

„Не паеду болей за граніцу,
Сэрца разарвецца ад тугі".

Дыямэтральна супрацьлежнае глядзішча двух савецкіх мастакоў на выезд за граніцу: Пімен Панчанка кажа: „болей туды не паеду"! Плісецкая езьдзіць туды з ахвотай і задавальненьнем.

І я зразумеў, чаму Пімен Панчанка ня хоча езьдзіць за граніцу; таму, што ён пісьменьнік. Таму, што ён глядзіць на „заграніцу", на жыцьцё заграніцай адчыненымі, зыркімі вачыма і ад параўнаньня заграмічных-замежных краінаў з роднай ягонай краінай, з адзінай ягонай Беларусяй ён пачынае хварэць. Але сэрца паэта „разарвецца ад тугі" не таму, што жыцьцё ў замежных краінах благое, як бязупынна дзяўбе партыйная прапаганда. Не, наадварот, таму, што за межамі людзі жывуць як людзі, адны бядней, другія багацей, але вольна жывуць і годна. А на любай бацькаўшчыне паэты яму сьніцца — нібы ў доме ягоным — цытую — „усё прапала — толькі стол пусты і нейкі нож". Ня тое было ў маленсьцьве, тады Беларусь ня была русыфікаваная, тый калгасаў яшчэ ня было, таму паэту ўсё часьцей маленства сьніцца. Вось адкуль — туга, ад якой разрываецца сэрца.

**Андрэй Клёнаў**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (ад 16 да 31 красавіка 1977) наступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**I. ЗША:**

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Парахвіяльная Рада Парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі, у знак ушанаваньня сьв. пам. Філярэта Родзькі | $ 80.00 |
| 2. | В. і М. М. | 25.00 |
| 3. | С. Грамыка | 20.00 |
| 4. | А. Шурба | 15.00 |
| 5. | П. Нягода (ад А. Міранцова) за кнішу | 15.00 |
| 6. | Н. Вайтовіч | 15.00 |

**Разам: $ 170.00**

**Б. Заплачана Прадстаўніку „Беларуса" ў Нью Джэрзі Браніславу Даніловічу:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Т. Супрун | $ 20.00 |
| 2. | П. Кулеш | 20.00 |
| 3. | Сп. С. Грамыка | 20.00 |
| 4. | А. Даніловіч | 15.00 |
| 5. | Д. Дзядовіч | 15.00 |
| 6. | М. Сенька | 12.00 |
| 7. | А. Субота | 10.00 |
| 8. | В. Сьліўка | 10.00 |
| 9. | Д. Галубовіч | 10.00 |
| 10. | Д. Дашкевіч | 10.00 |
| 11. | А. Корбут | 10.00 |
| 12. | А. Кудасаў | 10.00 |
| 13. | К. Стрэш | 10.00 |
| 14. | Л. Ясеновіч | 10.00 |
| 15. | А. Лог | 10.00 |
| 16. | Ю. Стагановіч | 10.00 |
| 17. | П. Швэд | 10.00 |
| 18. | Архімандрыд Язэп | 10.00 |
| 19. | Я. Місюль | 10.00 |
| 20. | Р. Арцюшэнка | 10.00 |
| 21. | Я. Кузьменка | 10.00 |
| 22. | В. Харавец | 10.00 |
| 23. | Р. Ігнатоўскі | 3.00 |

**Разам: $ 260.00**

**II. АЎСТРАЛІЯ:**

**А. Падпіска й ахвяры Беларусаў Сыднэю, заплачаныя за пасярэдніцтвам сп-ні Аўгені Каранеўскай у аўстралійскай валюце:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Я. Гавенчык | $ 30.00 |
| 2. | С. і О. Нарушэвічы | 20.00 |
| 3. | С. Яраховіч | 20.00 |
| 4. | В. Русак | 15.00 |
| 5. | В. Кобрынь | 15.00 |
| 6. | М. Лужынскі | 10.00 |
| 7. | М. Мілеўскі | 10.00 |
| 8. | М. Антух | 10.00 |
| 9. | М. Бакуновіч | 10.00 |
| 10. | В. Ліпскі | 10.00 |
| 11. | А. Смаль | 10.00 |

Па адлічэньні мясцовае перасылкі **разам ЗША $ 145.60**

**Б. Датацыя Згуртаваньня Беларусаў у Заходняй Аўстраліі ........ ЗША $ 107.92**

**В. Прыслана з Адэляйды індывідуальна ў Рэдакцыю:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | М. Бурнос | ЗША $ 22.14 |
| 2. | Ул. Акавіты | 19.44 |

**Разам: ЗША $ 41.58**

**III. КАНАДА:**

**Заплачана Прадстаўніку „Беларуса" ў Канадзе сп. Антону Маркевічу:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | М. Пракопчык | 12.00 |
| 2. | Б. Сладкоўскі | 10.00 |
| 3. | В. Прыстаўка | 10.00 |
| 4. | М. Буцька | 10.00 |
| 5. | М. Стэльмашык | 10.00 |
| 6. | А. М. | 10.00 |
| 7. | К. Акула | 10.00 |
| 8. | Л. Карыба | 10.00 |
| 9. | У. Целеш | 5.00 |
| 10. | А. Высоцкі | 5.00 |

**Разам: $ 92.00**

**IV. БРАЗЫЛІЯ:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | А. Каравайчык | **$ 10.00** |

**Усяго разам: $ 827.10**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**

**"БЕЛАРУС" — ЗАПРАЎДНЫ ГОЛАС ГРАМАДЗКАСЬЦІ. ДЫК І ГРАМАДЗКАСЬЦЬ ПАВІННА ДАЦЬ ЯМУ НАЛЕЖНАЕ ПАДТРЫМАНЬНЕ!**